



# Родная мова ў Менску

Размаўляць на сваёй роднай мове для чалавека гэтак жа звычайна, як дыхаць.

Любіць сваю мову, мову старажытнага беларускага народа, які пранёс яе і захаваў праз стагоддзі, перадаў нашаму пакаленню, гэтак жа натуральна, як і любіць сваю маці.

Як балюча ўсвядамляць, што гэтая цудоўная, прыгожая мова, якую вучоныя-славісты свету прызналі, як самую багатую, мілагучную, сакавітую, мяккую з усіх славянскіх моваў, страціла свой ужытак, яе сталі цурацца. Мова стала настолькі непапулярнай (безумоўна, не па віне яе носьбітаў), што проста перастала ўжывацца нават у сям'і, побыце.

Нават людзі старэйшага пакалення, якія скончылі беларускія школы і добра валодалі роднай мовай, размаўлялі тады па-беларуску, пачалі ўжываць у гутарцы расейскія словы, і мова наша стала мяшанай, як цяпер кажуць "трасянка". Мы, беларусы, бадай, адзіная нацыя ў свеце, якая не карыстаецца сваёй роднай мовай ў паўсядзённым жыцці, мовай, якая з'яўляецца цяпер дзяржаўнай.

Пік заняпаду роднай мовы, яе вынішчэння, на мой погляд, прыпадае на 60-80 гады, калі ў масавым парадку прымусова, па загаду сталі зачыняць нацыянальныя школы, а новыя адчыняць толькі расейскамоўныя. Дзеткі беларусаў пазбавіліся магчымасці вывучаць матчыну мову і валодаць ёю. І не стала тых матак, якія б перадавалі гэтую мову дзецям.

Цяпер мы маем магчымасць адрадзіць сваю родную беларускую мову і калі мы гэтага не скарыстаем, то нашы нашчадкі нам гэтага не даруюць.

Наша творчая інтэлегенцыя вучоныя, пісьменнікі, журналісты з'яўляюцца носьбітамі культуры, мовы беларускага народа, які нас корміць і мы павінны добра валодаць мовай гэтага народа, яго найдаражэйшым скарбам, вывучаць яе, ведаць гісторыю шматпакутнага беларускага народа, яго культуру, традыцыі, звычкі.

Мова з'яўляецца адной з галоўных прыкмет нацыі, яе душы. Яна злучае людзей ў суцэльны народ, цэментуе яго. Праз стагоддзі нашы прашчуры захавалі і развівалі матчыну мову, а мы яе выракаемся.

Цяпер мы бачым, як расейскамоўныя чыноўнікі і абруселыя беларусы, якія страцілі сваю нацыянальную самасвядомасць, вядуць адчайную барацьбу супраць адраджэння нацыянальных школ.

І гэта на этнічнай тэрыторыі беларусаў дзе толькі і можа развівацца і адчуваць сябе вольна родная мова. Дзе ж ёй жыць і квітнець, як не на сваёй Бацькаўшчыне — Рэспубліцы Беларусь?

Без мовы няма дзяржавы. Для такой невялікай краіны, як Беларусь, мова — адзіны сродак выжыць. Але, як мы цяпер бачым, ніхто не спяшаецца ўводзіць беларускую мову ў справаводства. Нават тыя дзяржаўныя ўстановы, дзе з вялікім скрыпам было ўведзена ў пачатку 90-х гадоў службовае справаводства на беларускай мове, зноў перайшлі на расейскамоўнае. Таксама і ў органах культуры, адукацыі яшчэ не чуваць у поўнай меры беларускай гаворкі.

Зняважлівыя адносіны да беларускай мовы адчуваюцца і ў сценах парламента і ўрада, дзе і слоўца беларускага не пачуеш.

Не гучыць яна на вуліцах, плошчах, парках не толькі ў нашай сталіцы, але і іншых гарадах і пасёлках нашай Бацькаўшчыны. Дзе вы бачылі ці чулі, каб у нас, у горадзе Менску — духоўным цэнтры сувярэннай дзяржавы, — размаўлялі дзеці паміж сабой на роднай мове? Мара ды і толькі! Але гэта было. І не ў сне.

Неяк улетку нас наведалі дзеці беларусаў з Беласточчыны. Ужо больш васьмі гадоў прайшло з той пары, але голас гэтых дзе-так яшчэ і цяпер стаіць у маіх вушах. І калі яны чародкай крочылі па Ленінскаму праспекту (цяпер праспект Францішка Скарыны) я пачуў іх беларускую гаворку. Шчыры голас дзетак-беларусаў з Польшчы на роднай беларускай мове прывёў да здзіўлення менчан. Вялікае ўраджанне на людзей зрабіла гэтая група з 20 школьнікаў. Я не мог паверыць, што ў нашай сталіцы магчыма пачуць беларускую гаворку дзяцей-школьнікаў: у нас, у горадзе Менску не было беларускіх школ ці класаў і родная мова не вывучалася.

Мая душа была настолькі ўзрушана, што я міжвольна пакрочыў за імі, каб з вялікім задавальненнем і радасцю слухаць цудоўную беларускую мову ў чыстым вымаўленні — прадоўжыць выпаўшае мне шчасце.

Я бясконца ўдзячны людзям, якія рупяцца пра сваё роднае слова. Як жа моцна павінны любіць сваю родную мову бацькі, каб перадаць гэтую любоў сваім дзецям!

Мяне хвалявала і хвалюе да гэтай пары, як шануюць сваю родную мову, дбаюць пра яе бацькі-беларусы за межамі нашай Бацькаўшчыны. А як цудоўна размаўляюць на нашай мове эмігранты-беларусы з ЗША, Англіі, Канады, Аўстраліі і іншых краін. Яна для іх як кавалачак радзімы ў сэрцы. А хто з асалодай не слухаў беларускія песні ў выкананні Андрусішына-Данчыка З ЗША?

І робіцца сорамна за становішча беларускай мовы, у якім апынулася яна ў нас на беларускай зямлі — Рэспубліцы Беларусь.

Нават і цяпер, калі ўжо беларускай мове нададзены статут дзяржаўнай, калі ёсць "Закон аб мовах", знявага, яе заняпад прадаўжаюцца. Я сёння проста не магу паверыць, што былі 20-я гады, беларусізацыя, калі партыйныя і дзяржаўныя дзеячы рэспублікі, знаходзілі час і свае намаганні прыкладалі да вывучэння роднай мовы беларусаў, падтрымлівалі яе прэстыж перад іншымі, адчынялі нацыянальныя школы, ВНУ. Усе сходы, выступленні, даклады, размовы паміж сабой — усё ў родным слове. З якой любасцю і захапленнем мы глядзелі першы беларускі фільм "Хвоі гамоняць", з вялікім задавальненнем і радасцю глядзелі беларускую п'есу "Мікітаў лапаць". Усё гэта было. І я сам бачыў упершыню на сцэне нашага нардома, як тады называлі цяперашнія клубы і пастаўлены школьнікамі старэйшых класаў на нашай адметнай мове, цудоўнейшай і прыгожай.

Жывая беларуская гамонка гучала з вуснаў усіх насельнікаў маёй малой Радзімы — Койданаўшчыны: татар, яўрэяў, украінцаў і нават расейцаў, якія тут пражывалі з даўніх часоў і іх тады было няшмат, асабліва ў сельскай мясцовасці.

А як прыемна было слухаць гаворку свайго дзядулі, які размаўляў на чысцюткай беларускай мове (расейскіх слоў ён не ведаў, бо не вучыўся ў школе. Быў ён непісьмен-ным (нарадзіўся яшчэ пры прыгонным праве), а ча-лавек культуры высокай: ніколі не пачуць было ад яго брыдкіх слоў, тым больш матаў. Бацькі мае таксама размаўлялі на роднай мове, але ўжо трапляліся ў гутарцы расейскае ці польскае слова. Маліліся толькі на расейскай на якой вучыліся ў школе: беларуская была забаронена.

Сам я закончыў у 1939 годзе беларускую школу, выкладанене вялося па ўсіх прадметах на роднай мове і калі прышоў у першы клас расейскай мовы не ведаў.

Потым быў палітэхнічны інстытут, дзе ўжо выкладалі ўсе прадметы толькі на расейскай мове: беларускія выкладчыкі былі рэпрасаваны, а цудам застаўшыяся вялі лекцыі на расейскай мове.

Дарэчы, на першым курсе выкладалася і беларуская мова, але да яе ніхто са студэнтаў сур'ёзна не ставіўся, не стараўся яе вывучаць: татальны страх яшчэ трымаўся ў нашых душах ад учыненага бальшавікамі гвалту над беларускай інтэлігенцыяй, знішчанай за тое, што размаўлялі на сваёй роднай мове.

Мову беларусаў, адну з унікальных моў свету, геній сусветнай паэзіі і наш слынны зямляк Адам Міцкевіч лічыў самай самабытнай, добра распрацаванай і самай мілагучнай са славянскіх моваў. Нельга далей цярпець такую несправядлівасць, калі беларусы, карэнныя жыхары рэспублікі, вымушаны былі адракацца ад роднага слова, а людзей, якія любілі сваю родную мову, размаўлялі на ёй прылучалі да так званых "нацдэмаў" і рэпрэсавалі. Лепшыя сыны і дочкі нашага народа, вучоныя, настаўнікі, аграномы, людзі творчай інтэлігенцыі — носьбіты нашай культуры і мовы былі закатаваны і растраляны ў Курапатах або адпраўлены ў Сібір, на Калыму дзе і гінулі ад цяжкай працы і голаду, хвароб.

Праблема захавання 10-мільённага народа, як нацыі хвалюе цяпер кожнага беларуса.

Як і кожны народ беларусы хочуць быць духоўна багатымі, свабоднымі, самабытнымі "людзьмі звацца", як пісаў вялікі Купала.

Амаль пяць стагоддзяў прайшло, калі вялікі Скарына заклікаў нас берагчы сваю зямлю дзе нарадзіўся, а разам з гэтым берагчы сваю культуру, мову.

Наша роднае слова будзе жыць і квітнець. Я веру і ўпэўнены, што не павінна знікнуць цудоўная адметная мова народа, даўшага свету Францішка Скарыну, Міколу Гусоўскага, Ефрасінню Полацкую, Кірылу Тураўскага, Васіля Цяпінскага, Кастуся Каліноўскага, Купалу і Коласа.

***Наско Мікалай Іванавіч***
***ветэран працы,***
***студэнт ф-та журналістыкі БДУ***

# "З чужой моўнай практыкі..."

**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

Працяг

***Прыпеўка і частушка.*** Слова ***частушка*** паходзіць ад ***часты***, першаснае значэнне — ***"тое, што часта паўтараецца"***. Слова, уласцівае расейскай мове, дзе яно мае значэнне ***прыпеўкі***, выступае і ў варыянце ***частуха*** (М.Фасмер. Этимологический словарь русского языка Т. 4, М.,1973.С.318).

Беларускай мове ўтварэнні з суф. ***-ушк-а*** неўласцівыя (пра гэта згадвалася раней, гл. таксама раздзел "Словаўтварэнне"). Да гэтага ж слова ***частуха*** мае там і значэнне "кошык з густым плецівам", "гушчарнік", "густая рыбацкая сетка" (Тамсама). У беларускай мове гэтыя значэнні перадаюцца коранем (асновай) ***густ -ы***: ***чаща -гушчар, частый лес — густы лес.***

Як назва ***прыпеўкі частушка*** паходзіць з абрадавага прыпеву скокавай (танцавальнай) песні. У беларускай мове захавалася з гэтым значэннем лексема прыпеўка (ад прыпяваць>прыпеўка) "Беларуска- расійскі слоўнік" М. Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926.С.257) фіксуе: ***"Прыпеўкі ж.мн. — частушки"***. Няма ў гэтым слоўніку, як і ў іншых даведніках адраджэнскага часу (20-я гады), слова ***частушка***. А вось пасля 30-х гадоў ***прыпеўка*** было заменена на пазычанае з усесаюзнага фонду ***частушка***. Так, РБС-53 падае: "Частушка лит.частушка, -кі ж. (755). Але ў РБС -62 ужо чытаем: "Прыпеўкі, - певак, ед. прыпеўка ж. — частушка (с.752). Праўда, на с.1013 бачым і такое: "Частушка ж. — частушка". Як відаць, "узбагачэнне" праз РБС-53 адбылося. Наступныя перавыданні РБС-53 ужо падаюць у беларускай часцы да рас.***частушка*** два словы: ***частушка, прыпеўка*** (РБС-82, РБС-93). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.4.Мн.,С.462) падае слова з наступнай кваліфікацыяй яго сематыкі: "***Прыпеўка***, ж. І. Кароткі, звычайна чатырохрадковы, фальклорны вершаваны твор, злабадзённага або жартоўнага зместу, які выконваецца на пэўны матыў; частушка. 2. Тое, што і прыпеў (у 1 знач.). А вы, валачобнікі, далучайцеся да нас: прыпеўку спяваем усе -не сунімаўся Янка (Колас)." Як бачым, гэтая лексема захавала і сваё першаснае значэнне 'прыпеву', які часта паўтараўся (ён набыў у расейскай мове назву ***частушка***).

А вось новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн.,1996. С.745) падае і тлумачыць толькі слова ***частушка*** (а пры слове ***прыпеўка*** чытаем: "Тое, што і частушка"), прычым тут нават не згадваецца сінонім гэтага слова — ***прыпеўка***. Ад слова ***прыпеўка*** лёгка ўтвараюцца і назвы асобаў — выканаўцаў гэтага фальклорнага жанру: ***прыпевач -нік і прыпевач-ніца.*** Але нашыя акадэмічныя слоўнікі, ідучы ў фарватары "зліцця моваў", падаюць толькі расейскія ўтварэнні. Параўн. у РБС-82 (Т. 2. С. 586). ***"Частушечник разг. частушачнік, частушечница — частушачніца, частушка — частушка, прыпеўка".***

***Крыўднік — не крыўдзіцель.*** Утварэнні з суфіксам ***-цель*** беларускай мове неўласцівыя (пра гэта не раз згадвалася ў друку). Іх месца найчасцей займаюць словы на ***-нік***. Ад дзеяслова ***крыўдзіць*** утварылася найменне асобы ***крыўднік***. Гэтае слова падае В.Ластоўскі: ***"Крыўда, крыўдна, крыўдзіць, крыўднік, -ніца, крыўджаны"*** (да рас. Обида. - "Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік". Коўна, 1924. С. 388). Іншыя беларускія слоўнікі сталі падаваць словаўтваральную структуру з ***-цель: крыўдзіцель***. Відаць, гэтае слова ўтварылася на расейскай глебе (як фальклёрнае, слова ***крыўда*** ўласцівае і расейскай мове — (РБС-53, С.221).

У 90-х гадах на месцы ўтварэння на ***-цель (крыўдзіцель)*** стала актыўна ўжывацца адмысловае беларускае ***крыўднік***. Гэта ўлічыў і РБС-93, дзе ўжо падаецца і слова ***крыўднік*** як адэкват рас. ***обидчик*** (Т.2.С.274).

***Не зважаючы на і нягледзячы на***. У савецкі час адпаведнікам расейскага прыназоўніка ***несмотря на*** найчасцей выкарыстоўвўся ***нягледзячы на***, бо ён быў дакладнай калькай першага. Між тым у беларускай мове з значэньнем — не прымаючы пад увагу чаго -небудзь, насуперак чаму-небудзь бытуе свой адэкват: ***не зважаючы на***. Яго падае і РБС-53: ***"Несмотря предлог — нягледзячы (на каго-што), не зважаючы (на каго-што); несмотря ни на что — нягледзячы ( не зважаючы) ні на што"*** (с.316). Рэгістуецца ён і наступнымі перавыданнямі гэтага слоўніка — РБС-82, РБС-93 ды інш. А вось тлумачальныя слоўнікі свайго адмысловага і не заўважаюць. Тлумачачы сематыку прыназоўніка ***нягледзячы на***, ТСБМ (Т.3.Мн., 1979.С.425) не падае яго адэквата ***не зважаючы на.*** Між тым менавіта ён — ***не зважаючы на*** — у сучасным нацыянальным друку найчасцей выкарыстоўваецца. Прытым здачны ён замяніць яшчэ адну штучную кальку: ***не звяртаючы ўвагі на*** (<рас. не обращчать внимания на). Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" 1988-1989г. падае толькі наступнае: ***"Зважаючы: не зважаючы на асобы — не взирая на лица"*** (с.500). ***"Але: Пятро Іванавіч ... пагаварыць любіць — не зважаючы, што гарадскі"*** (Полымя. 1998. №6,С.35). На с.805 гэтага ж першага тома чытаем: ***"Нягледзячы предлог с вин. (в сочетании с "на") - несмотря; невзирая; нягледзячы ні на што — несмотря (невзирая) ни на што"***. Вось як пярэчаць складальнікі слоўніка самі сабе.

***Варункі і ўмовы, абставіны***. Слова ***варункі*** фіксавалі слоўнікі 20-х гадоў. В.Ластоўскі падае яго як адэкват рас. ***условие*** (побач з ***умова*** — ПРК(б) С,с.727). Засведчыў яго і "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С. Некрашэвіча: ***"Варункі м. мн. — условия"*** (БРС - 26,с.57). Бачым яго таксама ў "Беларуска - маскоўскім слоўніку" Максіма Гарэцкага (Вільня, 1921), "Падручным беларуска-польскім слоўніку" Б.Друцкага-Падбярэзскага (Вільня, 1929) ды іншых. З значэннем ***"умова"*** яно бытавала і ў старабеларускай мове з 16 ст. Паходзіць яно з нямецкай мовы (відаць, праз пасярэдніцтва польскай. Гл. ЭСБМ,Т.2.Мн.,1980. С.67). Аднак пасля сумнавядомых 30-х гадоў слова ***варункі*** ўжо не згадваецца ў перакладных слоўніках. Нажаль, нават у перавыданнях, здзейсненых у незалежнай Беларусі (РБС-93). А вось "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", яго першы том (Мн.,1977), які рэдагаваў знаны лексікограф і пісьменнік Мікола Лобан, засведчыў гэтае слова. На с.466 чытаем: ***"Варункі, -аў; адз. варунак, -нка,м. Абставіны, умовы"***. Аднак новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн.,1996) не фіксуе яго (відаць, таму, што яго няма ў Слоўніку С.Ожагава). Сучасны нацыянальны друк шырока карыстаецца гэтым словам. Вось некалькі прыкладаў: ***"Не вельмі спрыяльныя варункі жыцця"***. (ЛіМ. 20.02.1998). ***"Пра неспрыяльныя варункі для літаратурнае дзейнасці ў 30-я гады мы ўжо згадвалі"***. (Полымя.1998.№5.С.258). У газеце "Літаратура і мастацтва" ёсць нават адмысловая рубрыка **"Варункі"**. У нумары за 7 жніўня 1998 года ў ёй змешчана нататка Вадзіма Доўнара "Не кіем, дык палкай".

Як бачым, ёсць усе падставы для актыўнага выкарыстання слова ***варунак (мн.варункі)*** у беларускай мове. Яго, дарэчы, падае і нядаўна выдадзены "Старабеларускі лексікон" М.Прыгодзіча і Г.Цівановай (Мн.,1997): ***"Варунок — умова".***

*(Працяг у наступным нумары)*

